# МЕНСКАЕ ЖЫЦЬЦЕ.

**З прычыны Новага Году (па старому стылю), Чарговы нумар газ. „Беларусь“ выйдзе у пятніцу, 16-га студзеня.**

**У новую мястовую думу** кандыдатуры у члены магістрату выстаўляюць: ад расійскай партыі — Вошчынін, ад польскай—Павлюць (доктар), ад жыдоў—Хургін і Каплан.

**Для рэгістрацыі насяленьня** апошні тэрмін намечаны 25 студня, пасьля чаго будуць штрафаваць.

**Магістрат** зьвярнуўся ў упраўленьне менскага округу з мэмарандумам, ў якім сказано, што аддзел апалу магістрату болей ня можа выдаваць дроў для вайсковых часьцей, дзеле таго, што фінансавые варункі не пазваляюць адпускаць дроў навет мястовым установам і прадпрыімствам. Вайсков. часьцям магістрат выдаў дроў на мільён марак.

**Многіе прыватные і грамадзянскіе установы** у зьвязку з падзеньнем курсу польскай маркі пастанавілі павялічыць сваім служачым пэнсію на 30—60%. У некаторых прадпрыімствах пэнсія выплачваецца ў царскіх рублёх.

Паднято пытаньне аб павялічэньні пэнсіі служачым магістрату. Упраўленьне „усходніх зямель“ праектуе выплату пэнсіі сваім чыноўнікам у царскай валюце.

**Гандлёвы рынак** у Менску перажывае апошнімі днямі вялікі крызыс. Катастрафічнае становішчо з валютай давяло да таго, што заграничные і варшаўскіе купцы патрабуюць грошы за тавары толькі заграничнай або царскай валютай. Недастатак яе вядзе да таго, што мясцовые гандляры утрымліваюцца ад пакупкі тавараў. Адначасьне мясцовые аптавікі не прадаюць тавараў розьнічным гандляром, маючы на мэце, што чым далей, тым болей заработкаў яны будуць мець за свае тавары. У зьвязку з гэтым, гандляры вельмі павялічваюць цэны на свае тавары, орыентуючыся тым, што польская марка панізілася на 50%, дык цэны на ўсе тавары падняліся у два разы. Навет тады, калі курс маркі на біржы вышэй поўрубля, розьнічные гандляры ня цэняць яго вышэй, бо тут граюць ролю спэкулянцкіе апэтыты.

Наогул, у параўнаньні з мінулым месяцам, у Менск прыбывае куды меней тавараў. Вельмі мала ў Менску цукру і селядцоў. Цукар можна дастаць па 40—45 марак фунт, селядцы 17—20 марак. Зусім няма ў прадажы амэрыканскага лою, а поснае масло прадаецца па 20—15 марак фунт. Вельмі паменшыліся ў горадзе запасы бакалеі і галянтарэі. Бадай на 200% ўздаражалі фарбы. Сахарын прадаецца толькі на царскіе грошы—1800—1900 руб. кілё.

У будучыне чакаюць яшчэ большага павялічэньня цэн на ўсе тавары.

**Почта** адчынена гэтымі днямі вось у якіх пунктах: у Стоўбцах і Койданаве—Менск. округу і Буцлаве — Віленскага оуругу.

**Цёплая бялізна**, адтрыманая у ліку 26.000 камплектаў для раздачы сярод бяднейшага насяленьня Менску, гэтымі днямі будзе раздавацца. Утворана спэцыяльная камісія у складзе прадстаўнікаў двух ад палякоў, аднаго ад беларусаў і аднаго ад жыдоў.

**У хуткім часе** пачнуць зноў працаваць у Менску зачыненые цяпер майстэрні пры чыгунцы. Патрэбные варштаты і матэр'ялы будуць выпісаны з заграніцы.

**На біржы** курс польскай маркі ранейшы—53 руб. за 100 марак. На польскіе маркі зусім няма запатрэбаваньня. Вялікае запатрэбаваньне на царскіе рублі і нямецкіе маркі. Цяпер іх на біржы вельмі мала. За 500-кі плацяць 880—890 мар. польскіх. Ост-рублі на 2—3% даражэй нямецкіх марак.

**Танные абеды** для бедных дзяцей выдаюцца ва ўсім менскім окрузе ў ліку 65,000. Цяпер прыняты меры да таго, каб плата за абеды была паменшана з 30 да 15 фэнінгаў.

**Малако** прадаецца па 8 марак кварта.

## Урадовае абвяшчэньне.

Скарбовая ізба ў Менску падае да агульнага ведама, што подлуг загаду міністэрства фінансаў, вываз **царскай валюты** з Усходніх Зямель у б. Конгрэсовую Польшчу строга забараняецца. Дазваленьне на вываз грошай у рублёвай валюце з Усходніх Зямель у Варшаву можа выдаваць толькі міністэрство фінансаў.

Невыпаўненьне гэтага загаду будзе карацца адміністрацыйнем чынам.

І. Петрашэускі
Дырэктар Скарбовай Ізбы.
З. Чэркевіч
Кіраўнік Крэдытнага Аддзелу.

## Допісы.

*Слуцкі павет.* З прыездам у Слуцак, я пастараўся зьвярнуць увагу на арганізацыю павятовай школьнай рады Случчыны. Ня маючы магчымасьці с клікаць сход беларусаў, я залажыў касовую раду, аб чым паслаў паперу Беларускаму Камітэту ў Менск і павятоваму старасьце. Спадзяюся што праца пойдзе.

Быў на павеце. Агульнае ўражаньне вельмі добрае. Сялянство ідзе насустрэч з адчыненай душою. У кожным слове іх чутна скарга на палякоў. Відаць вялікая запужанасьць сялянства, так што трэба доўга з імі гутарыць, каб пачуць шчырае слово.

У вёсцы Лілікі, Царыўскай воласьці, вучыцель даўно ўжо пачаў знаёміць дзяцей з беларускай мовай, і ён сам вельмі спрыяе беларускаму руху, але абярнуць школу з расійскай на беларускую ня прышлося, бо школа служыць на тры вёскі і склікаць сход было не магчыма. Тут я залажыў культурна—прасьветны гурток „Вясковая Зорка. На Каляды было беларускае ігрышчо. Ставілі „Антось Лата“ і „На дарозе жыцьця“. Гурток мае на мэце пашыраць нацыянальную сьвядомасьць па суседніх вёсках, дзе будзе закладаць чытальні. У вёсцы ёсьць шмат людзей асьвечаных, спрыяючых беларускаму руху, якіе, мне здаецца, прынясуць многа карысьці.

У вёсках Паўстынь, і Волаты, Цараўскай воласьці, і ў вёсцы Ісерпа, Пагоскае воласьці, удалося абярнуць расійскіе школы на беларускіе. Павятовы школьны інспэктар згаджаецца на выкладаньне беларускай мовы толькі там, дзе вучыцель скончыў беларускіе курсы. Дзеля гэтага трэба зрабіць у Случчыне настаўніцкіе курсы.

У вёсцы Заградзе, Цараўскай воласьці, залажыўся беларускі коапэратыў „Гаспадар“, дзе маецца беларуская чытальня. Сялянство вельмі цікавіцца палітыкай. Вялікае значэньне мае чытаньне вершаў. Газэта разыходзіцца добра. Навет у самых глухіх вёсках здаралася бачыць нумары „Беларусі“.

У прадмесьці Слуцку—Востраў—заснована беларуская чытальня „Бацькаўшчына“. Знашоў у Слуцку беларускага прыхільніка свяшчэньніка, які ў цэркве з амбоны гаварыў сялянам а Беларусі і нацыянальным адраджэньні

А. Бараноўскі

*Рэдактар—Я. ЛЁСІК.*

*Выдавец — Часовы Беларускі Нацыянальны Камітэт.*



З дазв. вайсков. цэнзуры № 8, 14/і.

Менск. Друкарня Інвалідаў.